# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1759) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 28 СТУДЗЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.

## У ЧЫМ СПРАВА?

(яшчэ пра канфлікт у Гайнаўцы)

У публікацыях „Справа Мікалая Бушко ці наша справа?“ і „Дэмакратыя па-гайнаўску“ („Ніва“, 3 снежня і 10 снежня 1989) я паспрабаваў прадставіць акалічнасці ўзнікнення і разгортванне пратэсту групы працаўнікоў Гайнаўскага дома культуры (згуртаваных у „Салідарнасці“) супроць дырэктара Мікалая Бушко. Канфлікт гэты набыў вядомасць ва ўсёй Польшчы, дзякуючы публікацыям пра яго ў газетах агульнакраёвага абсягу („Gazeta Wyborcza“, „Rzeczpospolita“) і таксама дзякуючы візіту пані міністр Ізабелы Цывінскай у Гайнаўцы. Гэтым візітам я і закончыў разгляд падзей у ГДК, якія разгортваліся вакол канфлікту ў лістападзе. Уражанне ў мяне было такое, што неўзабаве ўсё палагодзіцца і закончыцца самым культурным чынам, як і належыць працаўнікам культурнай установы. Аказваецца, дарэмнае спадзяванне. Тое, што адбылося пасля, перасягнула далёка за межы маіх спадзяванняў наконт самых нечаканых ходаў ва ўсёй гэтай справе. Гэта ўжо не сенсацыя, гэта — жах.

5 снежня начальнік горада Гайнаўкі, пані Я. Рудзінская-Патэюк сустрэлася з усімі працаўнікамі ГДК, каб прадставіць сваё вырашэнне канфлікту пасля разгляду вынікаў працы спецыяльнай камісіі, якая даследавала закіды супроць М. Бушко (камісія працавала больш тыдня). Як і належала спадзявацца, камісія не пацвердзіла закідаў у дэспатызме дырэктара, у псіхічным здзекванні над працаўнікамі, у глумленні над членамі „Салідарнасці“ і гэтак далей. Камісія сцвердзіла, што кадравыя змены ў ГДК былі, фактычна, вялікія і часам працу пакідалі карысныя і патрэбныя працаўнікі. Камісія сцвердзіла таксама, што кантакты паміж дырэктарам і працаўнікамі мелі даволі фармальны характар і што гэта стварала нядобрую атмасферу ў працы. Былі таксама адзначаны некаторыя занядбанні ў вядзенні персанальных актаў працаўнікоў. За гэта дырэктар Бушко атрымаў службовую вымову.

Рашэнні начальніка горада: ліквідаваць усе занядбанні і прабелы ў персанальных справах працаўнікоў, апрацаваць план арганізацыйнай структуры ГДК і спосаб кіравання установай, прадоўжыць дагавор аб працы з адной з працаўніц (З. Якуць), стварыць пасаду намесніка дырэктара ГДК і прыняць на яе асобу, якую будуць акцэптаваць працаўнікі.

І вось вакол гэтага апошняга вырашэння пачалася вялікая куламеса. Дырэктар Бушко заявіў, што ён не мае нічога суп-

(Працяг на стар. 2)



ЗІМОВАЯ ІМПРЭСІЯ. Фота Я. Целушэцкага.

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА „ГРАМАДУ“

Чытаючы „Ніву“, можна заўважыць, што ідэя „Грамады“ дарагая многім, не толькі мне. А паколькі яе ў нас памятаюць, мне хацелася б сказаць яшчэ некалькі слоў. І на пачатку не столькі пра „Грамаду“, колькі пра тую легенду, што склалася вакол яе. А легенда, нярэдка непраўдзівая, калі яе паўтараць досыць часта, выяўляе свой зусім не легендарны бок. У адносінах да грамадаўскага руху 20-ых гадоў гаварылася — пісалася, што яе арганізавала і ёю кіравала КПЗБ. Гаварылася не ў паліцэйскіх дакументах, але былымі кіраўнікамі КПЗБ, і ўжо амаль да апошняга часу паўтаралася многімі гора-гісторыкамі, якія „даказвалі“, што „Грамада“ была трансмісіяй або прыбудовай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Нічога сабе — прыбудова! У ёй было сто (а можа і болей) тысяч членаў, а ў КПЗБ — толькі 3-5 тысяч.

Дзеячы „Грамады“ актыўна дзейнічалі ў беларускім асяроддзі ў Польшчы шмат гадоў да стварэння КПЗБ. Афіцыяльна арганізавалі яе пад канец 1923 — на пачатку 1924 года. А грамадаўцы дзейнічалі ўжо ад 1918, і не забываймa таксама, што сярод іх былі старыя актывісты перыяду „Нашай нівы“. У 1918 годзе многа дзеецца: беларусы ствараюць Беларускае навуковае таварыства, Беларускі музей, гімназію ў Вільні, а Браніслаў Тарашкевіч выдае навуковую граматыку для школ. У першыя гады незалежнай Польшчы сярод беларусаў развіваецца шырокі кааператыўны рух, а ў кіраўніцтве гэтага руху дзейнічаў Пётр Мятла, будучы пасол у Сейм і выдатны дзеяч „Грамады“. У 1919 годзе той жа Б. Тарашкевіч быў выбраны старшынёю арганізацыі, якая называлася „Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гродзеншчыны“. У 1920 г. у Вільні ўжо выдаваліся беларускія газеты (між іншым і „Наша ніва“), а для дзетак кніжачкі Гарэцкага і яго жонкі. Той жа Гарэцкі друкуе ў Вільні „Гісторыю беларускай літаратуры“. Рак-Міхайлоўскі рыхтуе кадры настаўнікаў. У Вільні дзейнічае пастаянны беларускі камітэт, дзейнічаюць школы і гэтак далей.

Значыць, быў беларускі актыў. І вядома, у якім напрамку ён вёў сваю дзейнасць. У 1922 годзе праводзілася сярод беларусаў Польшчы вялікая падрыхтоўка да выбараў у Сейм.

На шчасце, кіраўніцтва ЦК КПП, якое з надзеяй глядзела на рэвалюцыйную дзейнасць нацыянальных меншасцяў, не вяло барацьбы з імі, не перашкаджала галасаванню на 16 нумар. Затым пачаў дзейнічаць Беларускі клуб і разгарнулася масавая дзейнасць сярод сялянства ды інтэлігенцыі.

Дык вось як сказала мне адна жанчына, член сакратарыяту „Грамады“: „У „Грамаду“ камуністы прыйшлі на гатовенькае“. Святая праўда!

Як здарылася, што грамадаўцы ў 1926 г. дзейнічалі разам з членамі КПЗБ, — доўга апавядаць. Ва ўсякім выпадку, „Грамада“ ніколі не была ёй падпарадкавана. Многа ёсць на гэта доказаў. Напрыклад, пад канец 1925 года кіраўнікі КПЗБ, якім вельмі былі патрэбны кантакты з сялянскімі масамі, па-

(Працяг на стар. 3)

# НАЙСТАРЭЙШАЯ СЯРОД НАС

Бабка Еўдакія Нэйман жыве ў Падбеллі. З ранняй вясны да позняй восені збірае зёлкі на лякарства, сама іх сушыць і нават прадае на дзяржаўным скупе. Гледзячы на яе, не хочацца верыць, што бабка даўно ўжо пераступіла парог свайго стагоддзя.

Любіць бабка пагаварыць, паўспамінаць. Асабліва памятае бабуля свае маладыя гады. Якія ж былі яны іншыя, чым нашыя! Як толькі падрасла трошкі Аўдоцця, пайшла працаваць у панскія маёнткі, туды, дзе патрабавалі рабочую сілу. Працавала па маёнтках у паноў у Грыгароўцах, у Леўках, у Малінніках, у Кнарыдах, Дабрамілі і ў самім Падбеллі.

— Там і па-польску гаварыць навучылася, — хваліцца бабка.

Успамінае яна і часы бежанства, і панскае Польшчы, і савецкую ўладу, а потым і страшную вайну.

Неяк пагадавала сваіх дзяцей, потым і ўнукаў у сына Юзіка. Меў ён сямёра — два сыны і пяць дачок. Цяпер бабка Аўдоцця гуляе ўжо са сваёю праўнучкай. Малодшы Юзікаў сын з жонкаю жыве з імі разам.

Бабка Аўдоцця прызвычаілася ўжо, што людзі не вельмі вераць яе гадам. І не дзіва! 11 чэрвеня споўніцца ёй 110 гадоў. Нарадзілася бабка, як напісана ў пашпарце, у 1880 годзе. А бабка Аўдоцця яшчэ такая жвавая, такая шустрая!

— Як жа ж я без занятку сядзець буду? Нудна! — гаворыць яна.

А сын Юзік, якому ўжо таксама за семдзесят, дадае:

— Сушыць мама зелле, хоць і мала паплатны гэта занятак. Але ўсё ж для яе занятак! А жывем мы разам. Ёсці ўсім хопіць.

Бабка Аўдоцця цешыцца жыццём, дарослымі ўнукамі і праўнукамі. І ёй здаецца, што надоўгім было яе жыццё, хоць здарылася ў ім нямала цяжкога і сумнага. Але памяць у яе лагодная, стараецца захаваць усё добрае. Бо бабка, хоць пражыла нялёгкае жыццё, усё ж засталася вельмі добрай, сардэчнай, з пагодлівай аптымістычнай натурай.

**Яніна Чэрнякевіч**

**Фота аўтара**



# ЛЕРМАНТАЎ УКРАЎ ЯЛОЎКУ

У адной вялікай вёсцы жыў Ігнат „Лермантаў“ (так яго назвалі, бо сам вершы пісаў і прыгожа чытаў). Гаспадар з яго быў нядрэнны, толькі стары кавалер.

У той самай вёсцы жыла дзяўчына-прыгажуня, год за 20. Спакойная і працавітая. Працавала на дзяржаўнай пасадзе і бацькам у гаспадарцы памагала.

Лермантаў пачаў заляцацца да Марысі. Марыся закахалася адразу. Спатканні былі частыя, і дзяўчына зацяжарыла. Ігнат, даведаўшыся, пачаў сварыцца, што гэта не яго дзіця. Сустрэчы спыніліся. Марыся хадзіла сумная, а бацькі не ведалі, чаго перажывае іх дачка.

Лермантаў часта піў з сябрамі і ўсё гаварыў, што не ажэніцца і плаціць не будзе.

— Э! — махалі рукою хлопцы. — Ты жыцця, Лермантаў, не ведаеш — як бы ты ні круціўся, то ўсё роўна плаціць будзеш. Цяпер людзі не такія дурныя, каб не ведалі, хто вінаваты.

— Лепей забраць дзяўчыну да сябе і вяселле рабіць, бо аліменты немалыя прысудзяць! — падумаў Ігнат.

На святога Юрыя Ігнат добра папіў з сябрамі і сказаў: „Я хутка ажанюся“.

У хаце бацькі дапытваліся ў Марысі, чаму не ідзе на забаву.

— Мне неяк нездаровіцца, — сумна адказала дачка.

Бацькі параілі, каб узяла лякарствы і ішла спаць. Самі ў сваім пакойчыку заснулі хутка, а Марыся не магла. Да хаты далятала музыка і спевы п'яных хлопцаў. Дзяўчына ўспамінала часы, калі гуляла на забавах, і горка плакала.

Недзе каля поўначы хтосьці пастукаў у акно дзяўчыны. Стук быў такі настойлівы, што бацькі пачулі, але не ўсталі. Потым усё сціхла, бацькі паснулі.

Марыся адчыніла акно і ўбачыла Ігната.

— Марыська, прабач мне дурному, — прасіў Ігнат, — хадзі, так як стаіш, я цябе апрану, грошай хопіць. Хадзем, Марыська, будзем жыць.

— Ты п'яны, заўтра іншае скажаш.

Ігнат улез у пакойчык. Марыся апранулася, вылезлі разам і пайшлі да Ігната.

Рана бацькі не маглі дадумацца, дзе прапала дачка.

Калі ўправіліся і бацька панёс у злеўню малако, пачуў, што людзі смяюцца: „Лермантаў украў цельную ялоўку ў Бурака“.

— Калі гэта? — думаў стары.

— Гадзіна будзе, як загнаў яе на луг, няўжо Лермантаў такі злодзей?

Бацька выліў малако ў бак і пабег на луг. Каровы ўсе былі, і конь хадзіў, як трэба.

— Не бачыў Марысю? — спытала жонка, калі ён вярнуўся ў хату.

Не паспеў адказаць, як увайшла маці Лермантава.

— Хадзіце да нас. Будзем рабіць вяселле, бо Марыся прыйшла ноччу і ўжо застанецца. Во як цяпер з маладымі!

— Вось табе і цельная ялоўка, — узлаваўся бацька. — Адна дачка, і так зрабіла, што вачэй няма куды дзяваць!

Згулялі вяселле. Маладая пара жыве шчасліва.

**Аўрора**

Мікола Іваноў

# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

— 15 —

**2.5.3. Берлін 1925 год — эміграцыя вырашае: з кім яна.**

Выбар сродкаў, якія сталінізм выкарыстоўваў у барацьбе са сваімі патэнцыяльнымі ворагамі, сапраўды ўражвае сваёй шырынёй. Тут і жорсткі тэрор, і рознага роду подступы, і псеўдамарксісцкая вытанчаная дэмагогія, і элементарны падман, і шмат чаго іншага. Але ўсе гэтыя сродкі ўмоўна можна было б змясціць у рамках адной традыцыйнай формулы „бізуна і перніка“. Падобнае сумяшчэнне заахвочванняў і рэпрэсій з'яўлялася неабходнай умовай станаўлення сталінскай сістэмы таталітарнай улады. Перад тым, як канчаткова расправіцца з праціўнікамі сістэмы, трэба было ўсяляк усыпіць іх пільнасць. Дзеля гэтага можна было нават іх трохі прыгарнуць да сябе, аберагаючы пры гэтым „як зрэнку вока“ чысціню марксісцка-ленінскай ідэалогіі. Такім даволі простым, калі не сказаць прымітыўным, спосабам Сталіну ўдалося ачысціць плац для будучых рэпрэсій.

У дачыненні да беларусаў гэткая тактыка выражалася ў тым, што цэнтральныя ўлады дазволілі амаль неабмежаваную палітычную гульню паміж беларускімі нацыянал-камуністамі і беларускай палітычнай эміграцыяй. Абодвум з цэнтра была падкінута ілюзія магчымасці супольнага будаўніцтва сапраўднага беларускага нацыянальнага дома на базе БССР пры неўмяшанні ў беларускія справы цэнтральнага маскоўскага ўрада. Падобная ілюзія, як можна было пераканацца пазней, прывяла да страшлівай нацыянальнай трагедыі беларускага народа. Але ці ў беларускіх патрыётаў 20-х гадоў быў іншы шлях? Пытанне гэтае яўна рытарычнае, бо ўвесь працэс беларусізацыі і звязаных з ёй падзей прыпамінаў гульню паміж катамі і іх ахвярамі, калі і першыя і другія добра разумеюць сутнасць гэтай гульні, але не ў стане змяніць бег падзей.

Злавесную, а разам з тым вядучую ролю ў ажыццяўленні гэтых планаў адыграў чалавек, аб якім у беларускай гістарычнай і публіцыстычнай літаратуры вельмі мала вядома. Асобай гэтай быў намеснік савецкага пасла ў Варшаве М. Ульянаў. Тут, аднак, трэба адпаведнае высвятленне. Згодна з Рыжскім мірным пагадненнем 1921 г., Польшча ўзяла на сябе абавязак наладзіць дыпламатычныя адносіны з савецкімі Беларуссю і Украінай, якія савецкая прапаганда прыпадносіла ў якасці „незалежных і суверэнных“ рэспублік. Да сапраўдных дыпламатычных адносін, як вядома, аж да сённяшняга дня не дайшло, але нейкае падабенства гэтых адносін усё-такі было. У Мінску было адчынена Польскае генеральнае консульства, а ў савецкае пасольства ў Варшаве была накіравана група „беларускіх“ прадстаўнікоў. Узначальваў гэтую групу як раз Ульянаў. Меў ён афіцыйны тытул „надзвычайны прадстаўнік урада БССР пры савецкім консульстве ў Варшаве“. Быў ён таксама намеснікам савецкага пасла ў польскай сталіцы, што, безумоўна, сведчыла аб яго сувязях з Масквой.

Ульянаў і стаў галоўным арганізатарам акцыі шырокамаштабнага пераезду вядучых дзеячаў беларускай эміграцыйнай апазіцыі ў БССР. Сама акцыя адбывалася з санкцыі ГПУ і праходзіла пад пільным наглядам савецкай палітычнай паліцыі.

Летам 1925 г. Ульянаў запрасіў у савецкае пасольства ў Варшаве Алеся Цвікевіча і запрапанаваў яму канкрэтны план ажыццяўлення яго пераезду ў Мінск. Ён паінфармаваў старшыню беларускага эміграцыйнага ўрада аб неабходнасці правядзення палітычнай акцыі, якая б сведчыла пра „спыненне ўсялякай антысавецкай дзейнасці ўрада БНР і прадэманстравала шчырае жаданне эміграцыі актыўна працаваць над умацаваннем адзінага беларускага нацыянальнага дома“. Характар гэтай акцыі павінен быў вызначыць сам А. Цвікевіч, але такім чынам, каб яна магла пераканаць савецкія ўлады ў шчырасці імкненняў беларускіх замежных дзеячаў.

На адказ А. Цвікевіча не трэба было доўга чакаць. Неўзабаве ён запрапанаваў наладзіць спецыяльную канферэнцыю беларускіх работнікаў замежжа. На ёй А. Цвікевіч і ўсе міністры БНР урачыста перад абліччам усёй беларускай грамадскасці абвесцяць перадачу сваіх міністэрскіх мандатаў ураду БССР. Падобнае рашэнне патрабавала ад А. Цвікевіча асабістай мужнасці, але аб'ектыўна яно адпавядала агульным настроям сярод беларусаў за межамі БССР. Не апошнюю ролю ў гэтым рашэнні лідэра беларускай эміграцыі адыграла серыя ягоных сустрэч у канцы верасня 1925 г. з дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў у складзе Янкі Купалы, Цішкі Гартнага (З. Жылуновіча) і Міхася Чарота. Яны, відаць, і перадалі А. Цвікевічу паўафіцыйную згоду ўрада БССР на яго прыезд. Гэтыя жывыя сведкі шырокага нацыянальнага адраджэння ў БССР канчаткова пераканалі эміграцкага прэм'ера ў неабходнасці прыняць прапанову савецкіх улад і пераехаць у БССР.

На месца правядзення канферэнцыі быў абраны Берлін. Зроблена гэта было невыпадкова. Рапальскае савецка-германскае пагадненне 1922 г. знаменавала сабой пачатак вельмі блізкіх, нават сяброўскіх, адносін паміж урадамі Веймарскай Германіі і Савецкага Саюза. Савецкія прадстаўнікі адчувалі сябе ў Берліне вельмі свабодна і маглі ва ўсіх сваіх дзеяннях разлічваць на разуменне і садзейнічанне з боку нямецкай адміністрацыі. Берлін, да таго ж, з'яўляўся цэнтрам рускага зменавехаўства, горадам, дзе адбываліся рэгулярныя кантакты паміж рускай эміграцыяй і прадстаўнікамі савецкіх улад. Тут ад 1918 г. без якіх-небудзь перашкод дзейнічала афіцыйнае

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Была зіма. Была субота. Было сонца. Аж вочы сляпіла, так іскрылася ўсё навокал.

Грыша ўзяў у мамы венік і пачаў змятаць з дывановай дарожкі пыл. Награбе на дарожку снегу, а потым змяце... І снег робіцца цёмны. Адкуль толькі бярэцца ўзімку пыл?!

„Чы-шчу, чы-шчу", — шарахціць венік аб дарожку.

— Не спяшайся, Грыша, — раіць мама, цешачыся, што сын такі ўвішны і не лянуецца.

А чаго ленавацца? Не кожны дзень і не ўсякаму даюць чысціць дарожку. Захоплены працай, Грыша і не заўважыў, што дарожка скончылася і ён ужо мяце проста снег. Спыніўся. Азірнуўся. Навокал усё белае, а дарожка ярка-зялёная, нібы яе толькі што купілі і прынеслі дадому. І таму здаецца, што гэта вярнулася лета і праз снег прабіваецца мурава.

„Тра-та, тра-та-та", — застракатала ў Грышы над галавой Пачаў угледацца ў галлё на дрэвах: „Дзе яна, даўгахвостая дражнілка?" Ды сярод снежных шапак на дрэвах не так лёгка высачыць сароку. Яна ж таксама белая, толькі сям-там чорная. Як снег на чорных зімовых дрэвах.

Раптам сняжынкі запарушылі Грышу з галавы да ног, іскрыстай пудрай узвіліся ў паветра. На дарожцы забегалі зялёныя хвалі. Гэта мама пачала атрасаць дарожку ад снегу. І Грышу было прыемна адчуваць прахалоду сняжынак, што падаюць на твар.

„Тра-та-та..." — затрашчала зусім блізка. І толькі цяпер Грыша згледзеў на дрэве сароку.

— Вось я табе зараз пакажу, — пагразіў хлопчык венікам. Сарока ў адказ зірнула чорным цікаўным вокам і затрашчала яшчэ мацней: „Тра-тра, тра-та-та-та..."

Грыша хацеў дацягнуцца венікам да сарокі, але зверху зляцеў камяк снегу і пацэліў якраз за каўнер. Як знарок — вось табе! Хлопчык аж прысеў ад неспадзяванкі і пачаў вытрасаць рукавіцай снег. А рукавіца ж таксама ў снезе!

— Хто ж гэта цябе так абсыпаў? — здзівілася мама.

— Сарока, — адказаў Грыша. — Глядзі, глядзі! Вунь гуляе па нашай дарожцы... Во!

— Ёй жа, відаць, холадна ножкі замерзлі, — сказала мама.

А сарока тым часам дзяўбла, шчыкала зялёную поўсць на дарожцы.

— Глянь, што робіць, — зашаптаў Грыша. — Яна ж дарожку прадзяўбе...

У дзюбе сарока ўжо трымала зялёны касмыль.

— Гэта яна ў гняздо сабе, каб цяплей было... — растлумачыла мама. — Кыш, кыш...

А сарока нібы і не чула. Грыша махнуў рукой, яго чырвоная рукавічка зляцела з рукі і пляснулася на дарожку. Дарожка зялёная, рукавічка чырвоная, а вакол усё-ўсё такое белае! Сарока падскочыла раз-другі, распасцерла крылы. „А што, калі яна схопіць маю рукавічку?" — падумаў Грыша. Хлопчык уявіў сабе, як сарока залезе і будзе грэцца ў яго рукавічцы, і засмяяўся. Але трэба, трэба ратаваць рукавічку. Ён падбег, упаў на дарожку і прыкрыў рукавічку сабою. Сарока сярдзіта затрашчала і, не выпускаючы з дзюбы зялёнага касмыля, узляцела...

Мама тым часам пацягнула дарожку на сябе, а з ёю разам і Грыша паехаў па снезе. Ехаў і заходзіўся ад смеху. Потым падскочыў, схапіў рукавічку, надзеў і разам з мамай пачаў вытрасаць дарожку ад снегу.

**А. Паскробышаў**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### КАЛЫХАНКІ

**З НАРОДНАГА**

### ДОБРЫ ВЕЧАР

**Добры вечар, сад, сад,**
**Ужо бярозкі спяць, спяць.**
**Мы таксама ўсе заснем,**
**Толькі песенькі спяем.**

**Нашым дзеткам — дон, дон,**
**Хай прысніцца сон, сон.**
**Добры сон, шчаслівы сон,**
**Спіце, дзеткі, — дон, дон.**

**Добрай ночы, сад, сад,**
**Усе дрэвы спяць, спяць.**
**Нам таксама спаць пара,**
**Спаць пара...**

### ОЙ, БЫЧОК, МОЙ БЫСЕНЬКА

**Ой, бычок, мой бысенька,**
**Залатая лысінка,**
**Бадлівыя рогі,**
**Тупучыя ногі,**
**Ты ціхенька хадзі**
**І дзіцятка не будзі.**

### ЖУРАВЕЛЬКА ДАЎГАНОГІ

**Журавелька даўганогі,**
**Мабыць, збіўся ён з дарогі.**
**Сеў на нашыя вароты**
**І ад пылу чысціць боты,**
**А вароты скрып, скрып...**
**Наш сыночак спіць, спіць.**

**У апрацоўцы Васіля Віткі**



**Удзельніцы беларускага дэкламатарскага конкурсу Аня Засім і Уршуля Кунцэвіч з Ляшукоў.** **Фота Я. Ч.**

**Алесь Якімовіч**

# ЛЯНОТА

**КАЗКА**

**Пачатак у папярэднім нумары**

**IV**

Спаў Алік доўга. Ніхто яго не будзіў. А калі прачнуўся ды глянуў на гадзіннік, дык аж за галаву хапіўся: цэлую гадзіну лішнюю праспаў!

Выбег Алік на кухню, бачыць — там маці сядзіць з бульбінай у руках і дрэмле.

— Ты чаму мяне не пабудзіла? — напаў на яе Алік. — Праз цябе я ў школу спазніўся!

— Я хацела цябе пабудзіць, — адказала маці. — Але такая на мяне лянота напала, што я нават устаць з табурэткі не магу. Пачала бульбу чысціць, дык яна ў мяне з рук валіцца.

— Ай-яй-яй! — замітусіўся Алік. — Будзе мне ад настаўніцы. Напішы мне запіску, што ў мяне жывот балеў...

Алік прынёс маме кавалак паперы і аловак. Маці ўзяла паперу, але яна тут жа выпала з яе рук.

— Што ты — бязрукая? — са злосцю сказаў Алік.

Ён падняў паперу і зноў падаў маме. Але на гэты раз маці нават рукамі не паварушыла.

**(Працяг на стар. 10)**

### ХТО ДЗЕ СПІЦЬ

**След парошы на дарозе,**
**Ціха, ціха у бары.**
**Мядзведзь грэецца ў бярлозе,**
**Мышка грэецца ў нары.**
**У хмарах грэюцца бураны**
**Ад марозу ў серабры,**
**Дзеткі грэюцца ля мамы,**
**А у коміне — вятры.**
**Усіх іх люляе сама**
**Беласнежная Зіма.**

*** * ***

**Снег ад месяца іскрыцца,**
**Дым над комінам дугой.**
**Пень надзеў са снегу шапку**
**І любуецца сабой.**
**Зайка выйшаў на палянку.**
**— Падары мне, пень, вушанку!**

### ТАПКІ

**Памерзлі ў верабейчыка**
**На марозе лапкі.**
**Яму пашыла Верачка**
**Прыгожанькія тапкі.**
**Вынесла павесіла**
**У садзе на галінку,**
**І кліча звонка, весела**
**Вераб'я дзяўчынка.**
**— Верабейка, прыляці,**
**На галінцы пасядзі.**
**Абуй свае лапкі**
**У цёплыя тапкі!**
**Верабейка: „Чык-чырык,**
**Абувацца не прывык".**

**Іван Крупко**

